© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXVI, № 225 January — Студзень 1976 Vol. XXVI, № 225

## ПАЮБІЛЕЙНЫ ЮБІЛЕЙ

У 1972 годзе Беларусы замежжа адзначылі 450-годзьдзе заснаваньня першае на беларускай зямлі друкарні ды выхаду зь яе ў 1522 годзе першае друкаванае кнігі — Скарынавае віленскае „Падарожнае кніжкі". Гэтыя ўгодкі выдатнае падзеі гісторыі беларускага друку і ў 1972 годзе, і пазьней, татальна прамаўчалі прэса, друк, радыё Беларускай ССР. У Вільні-ж, месьце выхаду ў 1522 годзе Скарынавае „Падарожнае кніжкі", у сакавіку-ж 1525 году ягонага „Апостала", толькі пры канцы 1975 году, ці бо з трыгадовым спазьненьнем, было ўрэшце дазволена адзначыць юбілей запачатканьня Скарынам віленскага друку.

У Віленскім Дзяржаўным Унівэрсытэце 21 лістапада 1975 году адбылася навуковая канфэрэнцыя прысьвечаная доктару Францішку Скарыну ды 450-м угодкам ягонае віленскае друкарні. Чыталіся на канфэрэнцыі рэфэраты пра Скарыну, пра віленскіх друкароў ягоных пасьлядоўнікаў, пра друкарню колішняе Віленскае Акадэміі, пра кнігадрук у Беларусі, пра друк ды пашырэньне ў ЛССР і БССР твораў Леніна, ды на колькі іншых тэмаў зь гісторыі друкарскае справы.

З навукоўцаў, што на канфэрэнцыю прыехалі зь Беларускае ССР, рэфэраты чыталі А. Жураўскі, А. Коршунаў, Г. Галенчанка, Е. Умецкая й Л. Раўнаполец. Зь ведамых сваймі працамі з галіны гісторыі друку іншых навукоўцаў рэфэраты на канфэрэнцыі мелі дацэнт Віленскага Ўнівэрсытэту Л. Уладзіміраў, маскоўскі дасьледнік кірылічных старадрукаў А. Няміроўскі, гісторык старое віленскае кнігі, што жыве на Крыме А. Анушкін, ды колькі іншых.

У бібліятэцы Віленскага Ўнівэрсытэту на час канфэрэнцыі была наладжаная выстаўка выданьняў Скарыны ды скарынавае літаратуры. Да ўгодкаў выдадзеная была ў мове лятувіскай кніжка Л. Уладзімірава „Францішак Скарына — віленскі першадрукар" і бібліяграфічны паказьнік „Францішак Скарына й Літва".

Гадоў колькі перад гэтым у Вільні, на панадворку дому старога места, на вуліцы Антакольскага, для ўшанаваньня памяці віленскага першадрукара была пастаўленая скульптура „Летапісец". У дзень канфэрэнцыі побач, на вуліцы М. Горкага (колішня Вялікая вуліца), адбылася ўрачыстасьць адкрыцьця мэмар'яльнае таблiцы доктару Францішку Скарыну. Прымацаваная была табліца на доме, у якім у гадох 1521-1525 працавала Скарынава друкарня, доме тады „найстаршага бурмістра" Вільні Якуба Бабіча.

Першым з прамовай на адкрыцьці мэмар'яльнае табліцы выступіў супрацоўнік Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларускай ССР Г. Галенчанка. Ён казаў: „Францішак Скарына ўсьведамляў вялікае грамадзкае значаньне кнігадруку для разьвіцьця духовае культуры народаў. Ягоныя кнігі, выдадзеныя на ўражаюча высокім для таго часу паліграфічным узроўні, прасякнутыя тэндэнцыямі гуманізму, дэмакратызму ды патрыятызму". Пасьля Галенчанкі прамовы меў лятувіскі паэта Ю. Марцінкевіч. Ён, між іншага, сказаў:

„Аддаючы належнае першым майстром кнігадруку, мы гэтым выказваем удзячнасьць ім за тое Праметэява сьвятло, якое ішло ад іхных сэрцаў, іхных рук, і якім яны асьвятлялі шлях чалавецтву ў поцемках гісторыі. Шчасьлівае места, якое сяньня можна гардзіцца тым, што 450 гадоў таму гасьцінна прыняло „доктара сямі навукаў" Францішка Скарыну. І ніхто гэтак знакаміта не адудзячыўся месту, як сам Скарына, калі падаваў, што кнігі ягоныя надрукаваліся „ва слаўным месьце Віленскім". Дзесьці тут у ночнай цемры сьвяцілася акно, за якім пры дымнай сьвечцы свае рукапісы чытаў віленскі цудадзей. Пра гэтыя вось дні й ночы сьветчыць будзе ад сяньня гэтая мэмар'яльная табліца".

На адкрытай табліцы дадзены гэткі напіс: **„Ад 1522 да 1525 году тут, у месьце Вільні, беларускі асьветнік Францішак Скарына выдаў першыя надрукаваныя ў Ліцьве кнігі".**

Да належнага адзначэньня юбілею пачаткаў Скарынавага віленскага кнігадруку некаторыя віленскія навукоўцы рыхталіся ад гадоў ужо колькіх. Дзякуючы іхным, відавочна, захадам ды настойлівасьці, Масква, пасьля доўгіх хістаньняў ды тры гады па тэрміне дала ўрэшце дазвол на адзначэньне юбілею. Віленскія ініцыятары спадзяваліся, што ўгодкі яны змогуць адзначыць у шырэйшым, у ўсесаюзным маштабе, паколькі Францішак Скарына піянер друку ня толькі віленскага й ня толькі беларускага, але першадрукар і ўсяго цяперашняга Савецкага Саюзу. Адзначалася гэта й на ўгодкавай канфэрэнцыі.

Ды на ўсесаюзнае адзначэньне юбілею Масква не дала згоды ні ў годзе 1972, ні тры гады пазьней, пры канцы году 1975. Пра прычыны гэтага лёгка здагадацца: друк Скарыны ня друк пануючага народу імпэрыі, ня друк расейскі. Таму, хоць Скарынава віленская друкарня й была першаю на прасторы ўсяго СССР, прыгадваньне гэтага й савецкім грамадзянам, і сьвету, шырэйшым адзначэньнем юбілею беларускага ў істоце кнігадруку, было зусім ня ў вялікадзяржаўных інтарэсах Масквы.

Вось таму юбілей і ўспомнілі зь вялікім спазьненьнем, патэрмінова, ды як угодкі друку толькі лякальнага віленскага значаньня. Ніякіх інфармацыяў пра ўгодкі не падалі цэнтральныя прэсавыя органы імпэрыі — маскоўскія „Правда", „Известия", „Литературная газета". Маўчаньнем збылі ўгодкі выдатнага культурна-гістарычнага пачыну палачаніна Скарыны й галоўныя партыйныя органы Беларускай ССР, менскія „Советская Белоруссия" ды „Зьвязда".

У беларускай рэспубліцы толькі ў тыднёвіку „Літаратура і мастацтва", на самай апошняй, на 16-й бачыне нумару зь 5 сьнежня 1975 году, дадзенае было пэтытам кароткае афіцыйнае паведамленьне агенцыі БелТА зь Вільні аб тым, што там адзначаўся юбілей віленскага друку. Ад сябе рэдакцыя не дала чытачом ніводнага ўгодкавага артыкулу, ды ніякіх камэнтароў, як быццам-бы гэтая выдатная падзея Беларусі не датычыла ды доктар Францішак Скарына друкаваў кнігі не для свайго „люду паспалітага", не для свайго беларускага народу.

**С. Б.**

### СКАРЫНІНСКІ ВЕЧАР У ВАРШАВЕ

23 кастрычніка 1975 году ў памешканьні варшаўскага аддзелу Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства адбыўся вечар, прысьвечаны жыцьцю й дзейнасьці доктара Францішка Скарыны. Рэфэрат на вечары чытаў цяперашні кіраўнік Катэдры беларускае філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту, ведамы беларускі паэта, прафэсар др. Аляксандра Баршчэўскі.

Рэфэрэнт адзначыў вялікую прагу Скарыны да навукі й веды, ягоныя падарожжы па Эўропе, ягоны важны гістарычна пачын — запачаткаваньне беларускага кнігадруку, — ды ня менш гістарычна важны крок — пераход ад традыцыйнае тады у рэлігійных кнігах мовы царкоўнаславянскае да мовы зразумелае народу, мовы беларускай.

Пасьля рэфэрату завязалася вельмі жывая дыскусія. Ішлі спрэчкі пра сацыяльна-культурныя дачыненьні ў Вялікім Княстве Літоўскім у Скарынаву пару, пра скарыніяну ў сьвеце ды пра справу ўвекавечаньня памяці выдатнага беларускага вучонага-гуманістага й друкара.

У часе вечару была паказаная скульптура доктара Скарыны выкананая Мікалаем Валкавыцкім. Сваю скульптуру мастак падараваў варшаўскаму аддзелу Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства.

### ШМАТКУЛЬТУРНАСЬЦЬ АНТАРЫЯ

27 лістапада 1975 году у будынку Антарыйскага Парлямэнту ў Таронце адбылося паседжаньне прадстаўнікоў этна-культурных групаў правінцыі Антарыё. Паседжаньне склікала старшыня Камітэту для справаў шматкультурнасьці сп-ня Маргарэт Кэмпбэл, сябра Антарыйскага Парлямэнту ад лібэральнае партыі Антарыя.

Была гэта першая з нарадаў, што маюць адбывацца што пара месяцаў, або ў меру патрэбаў, дзеля абмяркоўваньня справаў, зьвязаных з патрэбамі разьвіцьця шматграннае культуры Антарыя.

Як прадстаўніка беларускае этна-культурнае групы, сп-ня Кэмпбэл запрасіла д-ра Раісу Жук-Грышкевіч.

### УЗНАГАРОДА В. ЖАЎНЯРОВІЧА

За мастацкую творчасьць Віктар Жаўняровіч, беларускі мастак-пэйзажысты, што жыве ў Парыжы, дастаў мэдаль ад Дэпартамэнтальнае Рады Сэйн-Сэн Дэні. У паваенных гадох В. Жаўняровіч прыймаў удзел у блізу ўжо паўсотні лякальных і агульна-нацыянальных францускіх выстаўкаў. Ягоныя творы былі на паказе й на выстаўках у ЗША — у Нью Ёрку, якія ладзіў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

**Сёлета мае выйсьці з друку паангельску „Гісторыя беларускае літаратуры. Ад пачаткаў да сучаснасьці" праф. Арнольда МакМіліна.** Кніга знаходзіцца ўжо ў друку ў заходнянямецкім выдавецтве „Шміц Фэрляг" у Гісэне. У кнізе, апрача ўступу, будзе 19 разьдзелаў. Першы разьдзел — „Духоўная літаратура 12-15 ст. ст.", апошні — „Паваеннае разьвіцьцё". Кніга будзе мець прыблізна 400 старонак.

**ТРЭЦЯЯ ШТОГАДОВАЯ МАСТАЦКАЯ**

**ВЫСТАЎКА**

**Ў БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ Ў САЎТ РЫВЭРЫ**

**Урачыстае адчыненьне выстаўкі**

**Ў НЯДЗЕЛЮ 21-ГА САКАВІКА А 3-Й ГАДЗ.**

Выстаўка пратрывае 4 тыдні (да 11. IV) і будзе адчыненая толькі нядзелямі паміж 3-й і 8-й гадзінамі папаўдні.

Усіх ветліва запрашаем наведаць выстаўку.

**Беларускае Культурна-Мастацкае й Навуковае Таварыства ў Саўт Рывэры**

## СПАТКАНЬНЕ З СЭНАТАРАМ ДЖЭЙМСАМ БАКЛІ



**Зьлева на права: Р. Станкевіч, сэнатар Дж. Баклі і Ю. Азарка.**

У панядзелак 15-га сьнежаня 1975 году адбылася прэсавая канфэрэнцыя, скліканая сэнатарам Нью Ёрку Дж. Л. Баклі для рэдактароў этнічных часапісаў і газэтаў у Міжнародным Цэнтры імя Карнэгі. Каля 50 прадстаўнікоў этнічнага друку ўзяло ў ёй удзел. Ад Беларусаў пэрсанальныя запросіны атрымалі: галоўны рэдактар газэты „Беларус" др. С. Станкевіч і галоўны рэдактар часапісу „Беларуская Моладзь" Р. Станкевіч.

На прэсканфэрэнцыі былі прадстаўнікі Грэкаў, Мадзяраў, Жыдоў, Немцаў, Палякоў, Расейцаў, Ірляндцаў, Італьянцаў, Нарвэгаў, Латышоў, Кітайцаў, Украінцаў, Партарыканцаў і Беларусаў.

Ад Беларусаў прысутнічалі на канфэрэнцыі Раіса Станкевіч і Юрка Азарка. На пачатку Сэнатар Дж. Баклі прывітаў прысутных і зазначыў, што людзі, якія згубілі свабоду ў сваіх родных краінах і пакінулі іх, знайшлі прытулак і страчаную свабоду ў Амэрыцы. Яны й ёсьць найбольшымі прыхільнікамі свае абранае краіны і яны павінны пераканаць амэрыканскае грамадзтва, што камунізм, інакш кажучы, Савецкі Саюз, пагражае ўсяму свабоднаму сьвету, у тым ліку й Задзіночаным Штатам Амэрыкі.

Ён таксама зазначыў, што Савецкі Саюз павінен быць змушаны заходнімі краінамі й Амэрыкай шанаваць гуманітарныя прынцыпы Гэльсінскага пагадненьня. Тады Сэнатар выказаў жаданьне пачуць, якія праблемы найбольш цікавяць чытачоў этнічнае прэсы. Ён папрасіў, каб прысутныя задавалі пытаньні й называлі пры гэтым сваё выданьне й этнічную групу. У запытаньнях былі парушаныя вонкава-палітычныя й нутраныя амэрыканскія праблемы, прыкладам: справа фэдэральнай фінансавай дапамогі гораду Нью Ёрку; справа перасыланьня зброі Паўночнай Ірляндыі й дыскрымінацыя Ірляндцаў у Амэрыцы; справа прызнаньня права Палестынскай Вызвольнай Арганізацыі быць рэпрэзэнтаванай у Задзіночаных Нацыях; канфлікт Турэччыны з Грэцыяй і іншыя. Прысутныя Беларусы таксама задавалі пытаньні. Р. Станкевіч (якая выступала ад газэты „Беларус"), запытала, чаму у кангрэсе ЗША дэбатуецца справа эміграцыі ў Амэрыку толькі Жыдоў, якіх у Савецкім Саюзе колькасьць параўнальна не вялікая, і чаму амаль ніколі не ўспамінаюцца іншыя нерасейскія народы, прадстаўнікі якіх таксама хочуць эміграваць або адведаць сваіх родных тут у Амэрыцы. Ці гэта ня дыскрымінацыя?

Сэнатар адказаў, што ён заўсёды падтрымлівае правы паняволеных камунізмам нерасейскіх народаў, і што сам, будучы ў Савецкім Саюзе, прывёз туды і падаў адпаведным уладам сьпісак людзей, што хочуць эміграваць у ЗША. А Ю. Азарка (заступнік галоўнага рэдактара часапісу „Беларуская Моладзь") запытаў: чаму Беларусам у ЗША ўсё яшчэ не дадзеная магчымасьць гаварыць да свайго народу праз радыястанцыю „Голас Амэрыкі"? Ужо колькі гадоў беларускае грамадзтва дамагаецца гэтага, і ўсё яшчэ просьбы ягоныя адкідваюцца. Выходзіць так, што перадаючы весткі ў расейскай мове для Беларусаў, амэрыканскае радыё „Голас Амэрыкі" дапамагае Расейцам русыфікаваць Беларусаў. Ён таксама паставіў пытаньне пра магчымасьць абмену консулятамі паміж Вашынгтонам ды Менскам і Кіевам. Сэнатар адказаў, што заўсёды падтрымвае радыястанцыі „Свабода" і „Голас Амэрыкі" і спадзяецца, што Беларусы атрымаюць жаданыя перадачы ў „Голасе Амэрыкі" ў сваёй роднай мове.

Канфэрэнцыя трывала больш за дзьве гадзіны ў вельмі прыемнай атмасфэры. Пасьля фармальнай часткі быў час на прыватныя гутаркі, на фатаграфіі. Мы таксама гаварылі і абменьваліся думкамі з Сэнатарам і выказалі яму сваю падзяку за ягоную асаблівую цікавасьць да праблемаў этнічных групаў і да паняволеных камунізмам народаў.

**Р. С.**

## УСЕБЕЛАРУСКАЕ СЬВЯТА Ў ЗША

Дзень Беларускае Культуры, што беспаваротна заплянаваны ўжо на 31 травеня сёлета ў Штатным Цэнтры Мастацтваў у Нью Джэрзі, мае ўсе асновы стацца важнай гістарычнай падзеяй у жыцьці амэрыканскіх Беларусаў. Калі ўсё пойдзе гэтак, як тымчасам выглядае, фэстываль станецца беларускай падзеяй найбагацейшай сваёй масай, талентамі і — што вельмі важна! — духам адзінства й згоды ў імя нашага Агульнага Назоўніка — Беларусі й Амэрыкі. Адзін раз за ўсе гэтыя гады — 31 травеня 1976 году — мы маем унікальную магчымасьць быць УСЕ РАЗАМ у самым літаральным значаньні гэтых словаў.

Удалае правядзеньне фэстывалю, зразумела, будзе вымагаць вялізарных высілкаў, максымальнае напружанасьці, цярплівасьці й такту. І гатовасьць на ўсё гэта вельмі добра адчувалася на першым арганізацыйным сходзе ў Саўт Рывэры, на які зыйшлося чалавек 60 гатовых да працы энтузіястых. Гэткай грамадзе людзей, а да яе далучыцца-ж яшчэ ці адзін дзесяток, усё пад сілу, калі кажны засярэдзіць усю сваю ўвагу на канчальнай мэце — на тым, каб **наш супольны** фэстываль у панядзелак 31-га травеня прайшоў як найлепш. Усе праблемы й цяжкасьці, дробныя непаразуменьні й канфлікты — ад іх, бадай, пры гэткім складаным агульным высілку нам не ўцячы — усё мусіць быць падпарадкаванае таму, каб фэстываль **адбыўся** — пры найбагацейшай праграме й максымальна масавым удзеле гледачоў. Плён гэтае ўдачы, калі мы здолеем яе сабе забясьпечыць, будзе багаты й шматгранны: дабрадзейны ўплыў яго адчуюць нашыя царкоўныя прыходы, грамадзкія арганізацыі, арганізацыі моладзі, беларускія сыботнія школы. Што яшчэ важней, першая ўдалая спроба моха запачаткаваць прыгожую традыцыю штагадовых гэткіх фэстываляў, як іх маюць ужо некаторыя іншыя этнічныя групы Амэрыкі.

Дзень Беларускае Культуры ў ньюджэрзійскім Штатным Цэнтры Мастацтваў адбудзецца 31 травеня, калі Амэрыка будзе сьвяткаваць Дзень Памяці. Зрабем яго таксама Днём Памяці пра Беларусь, якая Жыве!

**Янка Запруднік,**
сябра Арганізацыйнага К-ту
Дня Беларускае Культуры

**Кніга „Дастаеўскі і Беларусь"** выйшла ў канцы леташняга году ў Менску ў выдавецтве „Народная асьвета". Паводля абвесткі ў „Настаўніцкай газэце" (31. XII. 75) у гэтым „гісторыка-літаратурным дасьледаваньні расказваецца аб продках Ф. М. Дастаеўскага, якія паходзілі зь Беларусі, ягоных адносінах да беларускага краю".

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# МІХАЙЛА ГРАМЫКА

У 60-ых гг. Міхайла Грамыка быў рэгабілітаваны. Пазьней у савецкай прэсе й друку зьявіліся артыкулы пра ягоную паэтычную, навуковую й грамадзкую дзейнасьць. Артыкулы зычлівыя. Толькі адна дэталь усімі аўтарамі цалкам замоўчваецца ці згадваецца глуха: незаконны арышт у 1930 годзе. Справядлівасьць патрабуе прагал гэты хоць крыху запоўніць.

1930 год — чорны год у гісторыі Беларусі. Хмара тэрору зацягнула ўвесь ейны жыцьцёвы небасхіл. Сёлы „раскулачваліся", у гарадох ішлі павальныя арышты. А тым, хто заставаўся яшчэ „на волі", афіцыйная прапаганда тлумачыла, што ўсё гэта робіцца для дабра беларускага народу. Цынізм заскочваў, асабліва маладых. А я была маладой, і пытаньне „За што?" мяне мучыла. З кажным арыштам пытаньне гэтае да мяне варочалася ізноў і ізноў, „За што?" Відаць, таму падзеі таго часу, навет праз дзесяцігодзьдзі, надзвычай яркімі засталіся ў маёй памяці. Памятаю я добра й свайго шваґра Міхайлу Грамыку.

Я бачу яго высокім, зграбна збудаваным, зь мяккай усьмешкаю на прыгожым інтэлігэнтным твары, з густою сьветлаю шэвялюрай над высокім лобам, зь вялікімі сьветла-блакітнымі вачыма. У вачох шмат чалавечае цяплыні, а нярэдка й сьмеху.

29-га чырвеня, разам зь Міколам Азбукінам, прыехаў Міхась дадому ў Менск спад Гомелю, дзе яны абодвы рабілі гэалягічныя пошукі. Міхасёва жонка зь дзецьмі ўжо была на дачы, і я сама гаспадарыла ў хаце. У той дзень ён быў нязвыкла маўклівы, але мяне гэта не бянтэжыла. У мяне назьбіралася шмат навінаў, і я сьпяшалася падзяліцца імі.

— Міколу У., Янку Ю., Юзіка Б. і безьліч іншых, каго вы ня ведаеце, арыштавалі, — апавядала я яму пра сваіх блізкіх сяброў. — Учора я была ў ГПУ й бачылася зь Нінаю Б...

— Пачакай, — спыніў паток маіх словаў Міхась, — чаго гэта ты была ў ГПУ?

— Насіла перадачу Міколу.

— Ты-ж кажаш, там была ягоная сястра Ніна.

— Ніна носіць перадачы свайму мужу, яго таксама пасадзілі. На яе бедную галаву звалілася ня мала клопату. Бацьку й старэйшага брата „раскулачылі", пагналі ў Котлас. Мікола просіць яе перадаць яму пальто, а яна ня мае.

На твары Міхася сьвяцілася спачуваньне:

— А дзе-ж Міколава пальто?

— Міколу арыштавалі ня ў Менску, а ў Ленінградзе, дзе ён гасьціў у брата. Там, мажліва, і ягонае пальто засталося... Наразе Ніна ня мае пальта.

Міхась слухаў не перабіваючы, але я сама запынілася на момант, бо дайшла да галоўнага пункту нашае размовы. Запыталася:

— У вас два пальты?

— Два.

— Адно сьвяточнае, адно штадзённае?

На момант заклапочаны твар Міхася заірдзеўся вясёлай усьмешкаю.

— Ты хочаш давесьці мне, што мець два пальты зашмат?

— Натуральна. Магу я занесьці адно зь іх Міколу?

— Можаш. Толькі не памыліся: пакінь мне сьвяточнае, — пажартаваў ён.

— Не памылюся, — запэўніла я яго. — Туды ня варта добрую рэч несьці. Там, кажуць, пальто для хлапцоў і за сяньнік і за коўдру служыць. Ад добрай рэчы адны шматы застаюцца.

Міхась слухаў мяне, нічога не казаў. Толькі твар ягоны стаў ізноў заклапочаны. А я сама, як ні дзіўна, чамусьці не падумала тады, што арышт пагражае й яму. Неўзабаве перадала я пальто Міколу, а тыдні праз два Міхасёва жонка мусіла занесьці яму ў ГПУ й ягонае сьвяточнае пальто.

Мае кулінарныя здольнасьці ў тую пару былі вельмі абмежаваныя. Умела сьпячы яешню ды запарыць гарбату. Міхась ведаў пра гэта. Паклікаў мяне ў той дзень пайсьці разам зь ім „смачна паесьці" ў рэстаране. Пайшлі. У цэнтры гораду, на Савецкай вуліцы, напаткалі Аляксандра Цьвікевіча. Ён ішоў па другім баку насупраць. Угледзіўшы нас, затрымаўся, рукою стаў запрашаць перайсьці на ягоны бок.

Мы перайшлі й, разам зь ім, сталі крыху воддаль ад ходніка, каля ўваходу ў кіно „Чырвоная Зорка". Першымі словамі Цьвікевіча да Міхася былі:

— Яшчэ ходзіш?

— Як бачыш... Ня менш дзіўлюся, што й ты яшчэ ходзіш.

— Я, браток, ужо спакаваны, каб сесьці. Сумлеву мне не пакінута. З гадзіны на гадзіну чакаю „гасьцей" у хату.

— Як жонка? — запытаўся Міхась.

— Цяжка пераймаецца ўсім. Ды як і не пераймацца? Усявышні! Колькі лютасьці, колькі ненавісьці, колькі ілжы выліваецца на ўсіх нас! А мы?

— „Од молдаванына до фіна — на ўсіх языках усэ моўчыць... Бо благодэнствуе!.." — прадэклямаваў у вадказ Цьвікевічу Міхась сваю любімую цытату з Тараса Шаўчэнкі.

— Колас таксама цьвердзіць: „Маўчы, сьцяўшы зубы, калі хочаш жыць. Маўчы!.." А мне ўстрымацца не запярэчыць цяжка... Я-ж юрысты, асабліва, калі...

Якісь чалавек падыйшоў да афішы на сьцяне кіно. Цьвікевіч змоўк, выразна бліснуў вачыма ў бок незнаёмца. Ці той падышоў прачытаць афішу, ці паслухаць, пра што гаворыцца? Міхась спакойна, не мяняючы выразу твару, сказаў:

— Дык да пабачаньня! Прывітаньні жонцы.

— Узаемна, — адказаў Цьвікевіч. Мы разыйшліся ў розныя бакі.

— Чаму, — запыталася я ў Міхася, — Цьвікевіч вярнуўся з-за мяжы?

— Здаецца, у гэтым немалая віна ягонага брата Івана. Пісаў Аляксандру: „Вярніся, тут запраўды будуецца беларускі дом". А калі чалавек дзейны, любіць бацькаўшчыну, сумуе па ёй, калі ягонае карэньне засталося ў роднай глебе — усё будзе клікаць, усё будзе вабіць назад. Відаць, хочацца чалавеку ізноў пачуць вакол сябе сваё роднае „добры дзень", а не "Guten Morgen", хочацца паверыць...

— Вярнуўся сабе на бяду, — дадала я, — і можа загінуць. Шкада!

— Трагічна, — папраўіў мяне Міхась. — Аляксандар — чалавек вялікіх здольнасьцяў:

Некаторы час мы йшлі моўчкі. Невясёлыя думкі апанавалі мною. Я думала пра сяброў і калегаў Міхася. Некаторыя зь іх, як Язэп Сушчынскі, Язэп Лёсік, Мікола Азбукін, М. Доўнар-Запольскі, Уладзімер Пічэта, Васіль Дружчыц, Зьмітро Даўгяла, былі маімі настаўнікамі ў Беларускім Пэдагагічным тэхнікуме ці ў Беларускім Дзяржаўным унівэрсытэце. Паміж намі, студэнтамі, і імі, прафэсарамі, было, я-б сказала, глыбокае разуменьне й блізкасьць. Пэўна-ж, не без таго, што часамі мы й злаваліся на іх за нядобрую ацэнку, баяліся на экзаміне, асуджалі за строгасьць ці за лішнюю паблажлівасьць. Але мы ня сумляваліся, што яны — людзі з выключнымі талентамі й жадаюць дабра нам, маладым, дабра Беларусі. Навет цяпер, на схіле свайго жыцьця, калі я пажыла ў розных краёх сьвету, калі мінулі дзесяцігодзьдзі, я паважаю й ганаруся сваімі настаўнікамі болей, чымся тады. А тады мне было крыўдна за іх. Кроіла сэрца, што іхныя навуковыя дасягненьні рабіліся прадметам вульгарнае, злоснае крытыкі.

Мой прыгнечаны настрой Міхась заўважыў. Глянуў на мяне з ласкаваю ўсьмешкай, працягнуў і паціснуў сваёй рукою маю. Сказаў:

— Ня сумуй... яно ўжо так вядзецца ў сьвеце, што на долю кажнае гэнэрацыі прыпадае пара шторму й уціску... Перажываем і мы гэтую чорную гадзіну нашае нацыянальнае трагэдыі! Аднойчы ізноў загляне сонца ў нашае ваконца.

Я запярэчыла:

— Спадзявацца? Цяпер? Ня ведаю як.

— Вучыся. Вучыся быць аптымістым у жыцьці.

Быў Міхайла Грамыка сам аптымістым? Так. Верыў у шчасьлівую прышласьць нашае бацькаўшчыны? Усім сэрцам. Усё ў сваім краі — людзі, прырода, звычаі — выклікалі ў ягоным сэрцы замілаваньне.

Перад 1-ай сусьветнай вайною Міхась падарожнічаў па Эўропе. Наведаў Італію, Францыю, Нямеччыну, Швайцарыю. Меў мажлівасьць параўнаваць. Ён запэўняў нас, маладзейшых, што па прыродзе Беларусь — адзін з найпрыгажэйшых краёў у сьвеце. Ня раз казаў: нязьлічоныя багацьці крыюцца ў нетрах нашае зямлі. Хай дадуць нам толькі час, і мы знойдзем у сябе ня толькі торф і вугаль, але й нафту.

Часу яму ня далі. У пачатку ліпеня 1930 году арыштавалі, абвінавацілі ў нязробленых злачынствах. Пасьля году зьняволеньня ў Менскім ГПУ засудзілі на ссылку. Рэгабілітавалі за колькі гадоў перад сьмерцю. Позна. Стары, зьнядужаны, на любую бацькаўшчыну вярнуцца ён ня здолеў. Памёр у 1969 годзе на чужыне.

**І. Рытар**

---

**Ад Рэдакцыі:** Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 21 лістапада леташняга году на 90-я ўгодкі ад нараджэньня Міхайлы Грамыкі, ведамага беларускага паэты, драматурга й вучонага, што споўніліся 12 лістапада летась, надрукавала сьціпленькі, але цёплы артыкул паэты Станіслава Шушкевіча, былога вучня Грамыкі яшчэ ў 20-х гадох. Зьмешчаны вышэй артыкул Іны Рытар друкуем зь вялікай прыемнасьцяй і ўдзячнасьцяй, бо ён дае нам магчымасьць усё-ж адзначыць ім у нашай газэце ўгодкі выдатнага Беларуса.

# НАЗНАЧЭНЬНІ У КАНАДЗКУЮ РАДУ ДЛЯ ШМАТКУЛЬТУРНАСЬЦІ

Як паведамляе ўрадавы камунікат з 2-га сьнежня 1975 г., Міністар для Справаў Шматкультурнасьці Джон Манро абвесьціў 27 назначэньняў у Канадзкую кансультатыўную Раду Для Справаў Шматкультурнасьці. Створаная ў 1973 годзе Рада служыць дарадным целам для Міністра дзеля праводжаньня ў жыцьцё фэдэральнай палітыкі шматкультурнасьці.

У сваёй першай гадавой справаздачы, апублікаванай у чырвені 1975 г., Рада рэкамэндуе праграму, што мае на мэце перамаганьне няроўнасьці магчымасьцяў для розных этнічных групаў у захаваньні й разьвіваньні шматкультурнай спадчыны Канады. Рада асабліва робіць націск на навучаньне, дзеля захаваньня, моваў іншых, як ангельская й француская. Адначасна Рада займае моцнае становішча ў падтрымваньні двумоўнасьці, як гэта яна азначыла ў Афіцыйным Акце Моваў, і ўважае, што палітыка двумоўнасьці й шматкультурнасьці ўзаемна сябе дапаўняюць.

Фэдэральны Ўрад Канады верыць, што палітыка шматкультурнасьці — заданьнем якое сьцерагчы правы чалавека, разьвіваць канадзкую самабытнасьць (айдэнтыты), узмацняць удзел грамадзтва ў жыцьці краіны, узмацняць канадыйскую еднасьць, разьвіваючы ейную культурную разнаякасьць у рамках двумоўнасьці — можа шмат скарыстаць з рэкамэндацыяў Рады, склад якое абымае ня толькі прадстаўнікоў шматкультурнае спадчыны канадзкага грамадзтва, але й прадстаўнікоў шматлікіх і розных у жыцьцёвых абставінах раёнаў Канады.

Спасярод 27-ёх назначаных на час да траўня 1978 г. радных ёсьць і прадстаўнік беларускай культурна-этнічнай групы ў Канадзе др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Канадзкая Кансультатыўная Рада для Справаў Шматкультурнасьці налічвае цяпер 95 сяброў.

# БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДКІ Ў СКАЎЦКІМ ЦЭНТРЫ ЗША



**Беларуская моладзь (Аддзел АБАМ Нью Джэрзі) выконвае калядкі**

Сьвята каляднае ялінкі сярод скаўтаў Амэрыкі звычайна пачынаецца значна раней як самыя Каляды. Гэтым разам ужо 29-га лістапада адбылося адкрыцьцё гэтага сьвята ў музэі пры Галоўнай кватэры амэрыканскіх скаўтаў у Нью Брансьвіку. Гонару быць на пачатку сьвята заслужылася й нашая беларуская ялінка сярод іншых — украінскае, фінскае, польскае, швэдзкае, эстонскае...

Усяго было дзесяць розных ялінак, разнастайна прыбраных, з рознымі нацыянальнымі ўпрыгожаньнямі. Прыемна было адзначыць, што беларуская ялінка была ў першым радзе да залі, дзе з прамоваю перад бойскаўтамі ды іншымі хлапчукамі й дзяўчаткамі выступіў шэф амэрыканскага скаўтынгу Алдэн Барбэр і загадчык Нацыянальнага Скаўцкага Музэю Ільмар Плір.

Па афіцыйнай частцы адбыўся паказ дзіцячае самадзейнасьці.

Групы хлапцоў і дзяўчатаў у нацыянальных вопратках або ў бойскаўцкай форме, сьпявалі па-ангельску й на мове бацькоў калядкі.

Мастацкі гурток Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі — беларуская група, якой кіруе др. Ала Орса-Рамана — вельмі хораша выканаў калядныя песьні, тыя самыя калядкі, зь якімі гэтак прыгожа калядуе моладзь і цяпер яшчэ на Беларусі.

Самае моцнае ўражаньне з гэтае групы, ды бадай з усіх нацыянальных групаў, зрабілі сваім выступленьнем Паўлік і Коля Раманы. Яны былі самыя малодшыя з усіх калядоўшчыкаў, але й сьпявалі яны шчырэй і прыгажэй за ўсіх. Іхная калядка „Саўка ды Грышка ладзілі дуду..." выклікала шмат воплескаў ад гледачоў.

Арганізоўвалася беларуская ялінка ініцыятарамі з Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, старшынём якое сп. Юрка Азарка. Але да гэтага трэба дадаць, што вялікі ўклад у арганізацыю наладжаньня беларускае ялінкі унёс асабіста інспэктар скаўтынгу др. Вітаўт Кіпель ды што шмат дапамагалі ў арганізацыйных справах сп-ня Зора Кіпель, сп. Ф. Родзька, спадарства Кажуры, сп-ня Войтанка.

**Алесь Вожык**

# НА 70-Я ЎГОДКІ ЯНКІ СКРЫГАНА

Да 70-х леташніх ліпенскіх угодкаў ад нараджэньня Пятруся Броўкі й Пятра Глебкі ды 75-х угодкаў ад нараджэньня Кузьмы Чорнага й Уладзімера Дубоўкі далучыліся й 70-я ўгодкі ад нараджэньня Янкі Скрыгана, што споўніліся 16 лістапада летась. Сярод згаданых угодкаў выдатных дзеячоў беларускай літаратуры й культуры, угодкі Янкі Скрыгана былі адзначаныя найбольш сьціпла. Газэта „Літаратура і Мастацтва" ў сваім нумары за 14 лістапада зьмясьціла стандартнае прывітаньне праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі юбіляру ды кароткі, хоць і вельмі цёплы артыкул маладога пісьменьніка Алеся Жука пра ягоную літаратурную творчасьць і культурную дзейнасьць.

А тымчасам Янка Скрыган з увагі на вельмі важнае ягонае месца ў разьвіцьці беларускай мастацкай прозы заслугоўваў на куды большую ўвагу. Янка Скрыган вызначаецца як здольны, арыгінальны й самабытны пісьменьнік, як чалавек глыбокай душы й гарачага сэрца, як шчыры беларускі патрыёт, як нявінны мучанік у часы гэтак званага культу асобы Сталіна ды як усьцяж актыўны ў літаратурным і культурным жыцьці Беларусі й сяньня. У сваім аўтабіяграфічным нарысе 1964 году „Свая аповесьць" Янка Скрыган прызнаецца, што некаторыя ягоныя творы яму „нечым бліжэй да сэрца. Мабыць ад таго, што ўвесь гэты матар'ял найбольш прапусьціў праз сябе. Што ў працэсе работы найбольш зжыўся з гэтымі вобразамі".

І тут-жа пісьменьнік называе няпоўны дзесятак гэткіх апавяданьняў і аповесьцяў, што, як ён кажа, найбольш прапусьціў праз сябе. Мы-ж дапоўнілі-б гэтае Скрыганавае прызнаньне яшчэ й заўвагай, што ня толькі названыя ім некаторыя творы, але бадайшто ўсё ім напісанае ў большай або меншай ступені прапушчанае праз сэрца пісьменьніка. Няма бадайшто ніводнага ягонага твору, у якім-бы цераз ягоную эпічную аснову не прамаўляла й лірычнае „я" пісьменьніка.

Пісьменьнік Раман Сабаленка свой артыкул на 60-я ўгодкі Янкі Скрыгана, надрукаваны ў 1965 годзе ў газэце „Літаратура і Мастацтва", закончыў сьцьверджаньнем, што Скрыганава творчасьць **„заўсёды жывілася й жывіцца з крыніц народнага духа, з самых глыбінь народнага жыцьця".**

Нельга ў колькіх словах даць больш дакладнай і трапнай характарыстыкі творчасьці Янкі Скрыгана, як гэта зрабіў Сабаленка. І ўзапраўды: ці гэта будуць прадстаўнікі інтэлігэнцыі, ці сялянскія пэрсанажы, што выведзеныя ў пазытыўным сьвятле, ці сцэнкі зь вясковага жыцьця й быту, ці мініятурныя замалёўкі краявідаў Беларусі й зьяваў прыроды — усе яны маюць у сабе нейкія спэцыфічна народныя й тыпова беларускія рысы. Асабліва датычыцца гэта да сялянскіх пэрсанажаў, якімі густа населеныя Скрыганавы апавяданьні й аповесьці. як прызнаецца сам пісьменьнік у сваёй аўтабіяграфіі, бадайшто ўсе яны скап'яваныя із знаёмых яму рэальных людзей, а гэтымі прататыпамі для сваіх твораў браў ён звычайна гэткіх людзей, якія чымсьці характэрныя й тыповыя. Вось чаму пэрсанажы Скрыганавых твораў ня толькі носьбіты абстрактных думак і ідэяў, але й жывыя ілюстрацыі тыпова беларускіх характараў. У Скрыганавых творах беларуская нацыянальная калярытнасьць ня толькі моцна падчыркнутая, але й абагрэтая шчырай любасьцяй пісьменьніка.

Вазьмем, дзеля прыкладу, апавяданьне „Месячная ноч", напісанае ў 1962 годзе. Пакінутая на адзіноту й паняверку сваім мужам Сьцяпанам калгасьніца Волька сустракае на сваім жыцьцёвым шляху інжынера-гэадазістага Андрэя, што ў ейнай мясцовасьці праводзіў гэалягічныя пошукі. Андрэй — чалавек ідэі й высокіх маральных якасьцяў. Пра мэту й вынікі сваёй працы ён гэтак расказвае Вольцы: **„Гэта найвялікшае гістарычнае глупства, якое паўтаралі зь веку ў век ува ўсіх кнігах і вучоныя і невукі, што Беларусь — край балот, галечы, каўтуна й мякіны. Няпраўда! Хлусьня! Наша зямля вельмі багатая, толькі ня было каму, як добраму доктару, праслухаць яе".**

Якім-жа нізкім і нікчэмным выглядае супраць яго Вольчын Сьцяпан у ейных словах: **„Куды, чаго ён паехаў у сьвет? Чаго яму тут не хапала? Чым ён даражыў і што бачыў перад сабой? Што й каго любіў?**

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

**31 ТРАВЕНЯ 1976 Г. (MEMORIAL DAY WEEKEND)**
**GARDEN STATE ARTS CENTER**
**Woodbridge, N. J.**

Упяршыню ў гісторыі Амэрыкі, у годзе ейнага 200-гадовага юбілею, Беларусы й Амэрыканцы беларускага паходжаньня будуць мець нагоду прадэманстраваць багацьце свае нацыянальнае культуры ды выявіць запраўдны патэнцыял беларускае эміграцыі ў гэтым краі. Любасьць да Беларусі й Амэрыкі лучыць нас у вадну вялікую грамаду. Пакажэм гэта ў ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ!

**АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ**
**ДНЯ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**

## ДА ДНЯ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Як зазначана вышэй, выступленьне беларускае групы ў ньюджэрзійскім Штатным Цэнтры Мастацтваў адбудзецца 31 травеня сёлета. Гэта панядзелак, дзень дзяржаўнага сьвята — Дзень Памяці пра палеглых жаўнераў.

Праграма беларускага фэстывалю, як прадбачыцца цяпер, будзе складацца з мастацка-тэатральных выступаў, выставак, спартовых гульняў, кіёскаў беларускіх сувэніраў. Праграма разьлічаная на тое, каб быць як мага больш рэпрэзэнтатыўнай, багатай і разнастайнай ды ахапіць як мага большы лік беларускіх асяродкаў.

Магчымасьць правесьці гэткі фэстываль дадзеная нам Культурным Фондам штату Нью Джэрзі, якім загадвае штатны Аддзел Дарожнае Камунікацыі. Арганізацыйны бок фэстывалю, аднак — укладаньне праграмы, продаж білетаў, рэкляма, і г. д. — належыць нам, Беларусам.

Арганізацыйны камітэт фэстывалю складаецца з асобаў, што зацікаўленыя беларускімі грамадзка-культурнымі справамі. Частку падрыхтоўчае працы камітэт ужо зрабіў, аднак найбольшае й няйцяжэйшае заданьне яшчэ перад намі.

Наперадзе яшчэ арганізацыя праграмы, каардынацыя продажу білетаў, пашырэньне рэклямы пра фэстываль, каб забясьпечыць прынамся колькі тысячаў гледачоў. Вельмі важна адзначыць тут, што забясьпечаньне публікі на фэстываль — **нашае** заданьне, штат тут дасьць адно ўскосную дапамогу. Адсюль выплывае важнасьць рэклямы пра фэстываль, пашырэньне весткі пра яго ня толькі сярод нашых суродзічаў, але й сярод нашых прыхільнікаў, суседзяў, бліжэйшых і далейшых знаёмых. Праграма й абслуга на фэстывалі прадбачацца гэткія, што ніхто з наведвальнікаў не пашкадуе, калі пабачыць прыгожыя беларускія нацыянальныя касьцюмы, народныя танцы, пачуе мэлядыйныя беларускія песьні.

Фэстываль будзе найбольш красамоўным сьветчаньнем пра нас як нацыянальную групу ў Амэрыцы, пра нашае мастацтва, нашую салідарнасьць у імя Беларусі, нашыя арганзацыйныя здольнасьці, наш патэнцыял у Задзіночаных Штатах.

Гэтая інфармацыя тымчасам — толькі агульнае азнаямленьне з самой ідэяй фэстывалю й агульнымі арганізацыйнымі мерапрыёмствамі.

Дакладнейшыя дадзеныя будуць падавацца да агульнага ведама ў меру таго, як яны будуць ведамыя, у форме асобных абежнікаў і праз беларускі друк.

За Арганізацыйны Камітэт
Дня Беларускае Культуры
**Вітаўт Кіпель,** старшыня.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫН КАНАДЫ

Канфэрэнцыя Беларускіх Жанчын Канады, што адбылася 6 сьнежня 1975 г. у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Тароньце, была інсьпіраваная ідэаламі Міжнароднага Году Жанчыны, ідэаламі, што змушаюць жанчыну асэнсаваць сваё становішча ў грамадзтве, асэнсаваць сваю чалавечую годнасьць і, дзе трэба, змагацца за зварот адабраных ад яе правоў чалавека, што належацца і ёй — як жанчыне.

Канфэрэнцыя адбывалася на фоне выстаўкі патрэтаў выдатных беларускіх жанчын — Еўфрасіньні Полацкай, Алёйзы Пашкевіч-Цёткі, Паўліны Мядзёлкі й у 16-цёх гімнастычных фігурах Вольгі Корбут. Патрэты былі выкананыя беларускай мастачкай з Канады Івонкай Сурвіла. Іншымі экспанатамі выстаўкі былі кнігі, напісаныя беларускімі жанчынамі, між імі „Беларуская Мова", кніга 1-ая, Валі Пашкевіч з Канады, ды архіўныя матар'ялы зь дзейнасьці Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады, дзесяцігодзьдзе якога гэтая канфэрэнцыя таксама адзначала.

Старшынёй канфэрэнцыі была сп-ня Івонка Сурвіла. Ды ў залі адчувалася вышэйшае кіраўніцтва. З патрэту на франтовай сьцяне — „Сьвецяць вочы вялікай княгіні, гэта здань твая, Еўфрасіньня, мільганула з глыбінь вякоў ...". Еўфрасіньня, што беларускім жанчынам „дум ясноту пэўна ў спадчыну дала", была маральным кіраўніком сходу. Пад такой апекай, што трывае ўжо блізу тысячагодзьдзе, беларускія жанчыны адчуваюць сябе ўпэўненымі ў сваёй чалавечай дастойнасьці й вартасьці перад Богам і Бацькаўшчынай.

Песьняй „Беларусь наша Маці Краіна" і прывітальным словам Прэзыдэнта Рады БНР д-ра В. Жук-Грышкевіча пачалася праца канфэрэнцыі. Старшыня яе ў сваім уводным слове падкрэсьліла значаньне й патрэбу нутраной арганізацыі жанчын ды ўдзел беларускіх жанчын у вагульна-канадзкім жыцьці, у якім яны маюць нагоду папулярызаваць беларускае імя, ды жыцьцяздольнасьць беларускай этнічнай групы ў Канадзе. Удзел беларускіх жанчын у канадзкім жыцьці й цяпер ужо існуе: Фэдэральны Ўрад назначыў сябрам Канадзкай Кансультатыўнай Рады для Справаў Шматкультурнасьці, як прадстаўніка ад беларускай этна-культурнай групы, жанчыну — д-ра Раісу Жук-Грышкевіч; сп-ня Івонка Сурвіла, як прадстаўнік жаноцкай беларускай арганізацыі, запрошаная ў Раду Жанчын Этнічных Групаў. Старшыня Камітэту для Справаў Шматкультурнасьці Лібэральнай партыі ў Антэрыё, ды адначасна сябра Антарыйскага Парлямэнту, сп-ня Маргарэт Кэмпбэл запрасіла ў лік сваіх дарадчыкаў, як прадстаўніка беларускай групы, ізноў жанчыну — др. Раісу Жук-Грышкевіч.

Першым прэлегэнтам канфэрэнцыі была сп-ня Людміла Рагуля. Ейны даклад на тэму „Жанчына" прадстаўляў агульныя разважаньні аб жанчыне, ейным становішчы ў грамадзтве ў розных часох, пачынаючы ад дахрысьціянскае эры. Прыкладам, хрысьціянства, якое хоць і выступіла супраць нявольніцтва, адразу здыскрымінавала жанчыну, не дапускаючы немаўляці-дзяўчынкі да аўтара́, чым аўтаматычна паставіла жанчыну ніжэй за мужчыну, не зважаючы на сваю дактрыну, што перад Богам усе людзі роўныя. Ды жанчына па сваёй будове, фізіялёгіі й дадзеным ёй натурай прызначэньні бязумоўна розная ад мужчыны, і ў гэтым ейнае не паніжэньне, а характво. Выказаньнем задаваленьня з таго, што прырода стварыла яе жанчынай, прэлегэнтка закончыла свой цікавы, насычаны гумарам даклад.

Другая прэзэнтацыя „Беларускія жанчыны" д-ра Раісы Жук-Грышкевіч дала нарыс удзелу й значэньня беларускіх жанчын у культурным, нацыянальным і палітычным жыцьці Беларусі на працягу гісторыі, пачынаючы ад асьветніцы Беларусі Прадславы-Еўфрасіньні Полацкай, а канчаючы на дзейнасьці й дасягненьнях Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады. Асаблівая ўвага была дадзена наступным жанчынам у храналягічным парадку: Еўфрасіньні Полацкай, Камілі Марцінкевічанцы, Алёйзе Пашкевічанцы-Цётцы, Кацярыне Стаўбунік, Ларысе Геніюш, Натальлі Арсеньневай. Успомненыя былі й імёны пару дзесяткаў жанчын Савецкай Беларусі, ды на канец даны быў кароткі нарыс зь дзейнасьці й дасягненьняў Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады. Прэлегэнтка закончыла свой даклад пажаданьнем, каб гэ-

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)



Новапабудаваная Беларуская Праваслаўная Царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк



Сябры Спартовага Клюбу „НЁМАН".


## БАНКЕТ—БАЛЬ

**З нагоды 25-годзьдзя беларуска-амэрыканскага**
**СПАРТОВАГА КЛЮБУ „НЁМАН"**
**14 ЛЮТАГА 1976 Г.**
**У ЗАЛІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЦЭНТРУ**
**Ў САЎТ — РЫВЭРЫ, Н. Дж.**

**Грае аркест. „Нова" Алеся Мартыновіча. Пачатак а гадз. 7.30.**
**Уступ: 12,50 дал. ад асобы (ад студэнтаў — 10 дал.)**
Тэлефон (201) 254-9594; 254-9704

## ЧЫТАЙЦЕ ДЫЯЛЁГІ ПЛЯТОНА

на беларускай мове ў перакладзе Пастара Яна Пятроўскага

1-ая кніга — **Абарона Сакратаса, Крытон, Файдон** — цана $ 10.00
2-ая кніга — **Сымпозыён, Іён** з дадаткам кароткага Грэцка-беларускага слоўніка ........ $ 5.00
3-яя кніга — **Горгіяс** з дадаткам папраўленага і дапоўненага Грэцка-беларускага слоўніка ........ $ 5.00
4-ая кніга — **Протагорас, Гіппіяс вялікшы** ........ $ 5.00

Цэны з перасылкаю. З замоўленьнямі просім зьвяртацца на адрыс:

JOHN PIOTROWSKI
1716 NE 7th Terrace, Gainesville, Florida 32601


## НОРМА ДУХА

Чацьвертая кніга дыялёгаў Плятона на беларускай мове, якая ў травені гг. была выпушчаная ў сьвет, сярод іншага матарыялу, як уступ да перакладу, зьмяшчае ў сабе нарыс праф. Гільбэрта Марэйя „Вартасьць Грэцыі для будучыні сьвету". Нарыс гэты, із шматлікіх кутоў гледжаньня, зьяўляецца характэрным, гэтак з самога свайго ўжо тытулу, як і з прычыны яго нага зьместу. Гэта, між іншым, і сталася прычынаю, чаму перакладчык уважаў за мэтазгоднае прадставіць яго беларускаму чытачу.

У сваёй аналізе поступу сярод людзкае расы, супроцьстаўячы нашую сучаснасьць антычнай грэцкай рэчаіснасьці і, маючы на ўвазе будучыню сьвету, др. Маррэй ужо на першай бачыне рэасумуе зьмест свайго нарысу, калі ён кажа: у грэцкай рэчаіснасьці „ўсё вымерваецца нормаю духа, для якога дакананая рэч зьяўляецца малою, і вартасьць розуму, які праявіў сябе ў ёй гэтак многа, і які ня шмат руціцца пра суму атрыманае веды, але барджэй праяўленьнем любові да веды, меней зьвяртае ўвагу на добрае палітычнае самакіраўніцтва, чымся на свабодны акт гераізму чалавека" (бач. 9). У гэтым, паводля аўтара, ляжыць веліч залатога веку старажытнае Грэцыі. І ўсё, што ён гаворыць далей на 21 бачыне, зьяўляецца адным доўгім довадам гэтага сьцьвярджаньня.

Мы ляпей зразумеем выражэньне „ўсё вымерваецца нормаю духа", калі бліжэй прыгледзімся паняцьцю „духа". Калі мы згодзімся, што паняцьце „дух" — гэта нематэрыяльная інтэлігенцыя, дзеючая незалежна ад якіх-небудзь фізычных чыньнікаў; або чалавек з праяўленьнем пашаны да сваеасаблівых і вышэйшых характэрных сваіх рысаў, накіраваных у кірунку лепшых праяваў жыцьця і прагрэсу свайго часу, і, калі гэткая дэфініцыя заступіць нам слова „дух", тады ня цяжка будзе вылушчыць тое, што аўтар мае на ўвазе.

Паводля гэтае канцэпцыі інтэлігентны чалавек разумее, што дакананая рэч мае аграмаднае значэньне (*прынамся для яго*) і што аграмаднасьць гэтая знаходзіцца ў працэсе прыходу гэтае рэчы да быцьця. Аднак, з тою самаю хвілінаю, калі рэч завяршылася, яна губіць сваю велічнасьць і стаецца малою. Гэта можа гучэць дзіўна, але тут, якраз, ляжыць той прынцып, паводля якога адбываецца прагрэс на сьвеце, творацца цывілізацыі. Для прыкладу: У вельмі далёкім і адданеным ад нас часе, чалавек для транспарту і зносінаў ужываў свае ногі і плечы. Пры помачы іх ён перасылаў зь месца на месца вестку і пастарчаў апал зь лесу для свае хаты... Пазьней, ён упаў на думку змайстраваць тое, што сягоньня мы называем калясом; чалавек палепшыў калясо і прымайстраваў да яго воз, які з часам ён гэтаксама палепшыў і ўпрыгожыў. Замест каня, ён пачаў ужываць матор. Пасьля ён вынайшоў ракету і пры помачы яе асягнуў проста „неасягальнае": ён зь Зямлі заляцеў на Месяц і зь Месяцу вярнуўся на Зямлю! Акт, дакананы на працягу аднюсна доўгага часу: ад плячэй да ракеты: гэта і ёсьць поступ. І далей: З тою самаю хвілінаю, калі чалавек адбыў падарожжа на Месяц, чын гэты стаецца для яго малым; цяперака ён пляную адбыць падарожжа на Марс і г. д. Гэта прагрэс; і ён адбываецца ў

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

## БУДОВА ЦАРКВЫ ЗАКОНЧАНАЯ

**Ад Рэдакцыі:** З разасланага да друку матар'ялу Беларускае Праваслаўнае Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк, ніжэй падаём факты зь гісторыі пабудовы гэтай Царквы й пра афіцыйнае заканчэньне гэтае будовы. Вітаем адначасна ўсіх ейных будаўнікоў добрай волі зь іхным вялікім дасягненьнем ды зычым памыснага росту й разьвіцьця на будучыню ў імя агульнага грамадзкага дабра.

* * *

Так, царкоўная ўправа ў кастрычніку 1975 году атрымала ад гарадзкое ўправы гораду Нью Ёрк (Більдынг Дэпартмэнт) апрабату будовы й права на карыстаньне будынкам. На гэтым фармальна будова Царквы закончылася.

З важнейшых падзеяў гісторыі будовы трэба адзначыць наступнае:

16 кастрычніка 1969 г. Экзарх Канстантынопольскага Патрыярха, Архіяпіскап Якаў даў сваё благаслаўленьне й духовую падтрымку на дабрародны пачын.

21 чырвеня 1970 г. быў пасьвячаны й умураваны камень, на якім стаіць царква Сьв. Кірылы Тураўскага.

29 кастрычніка 1972 г. адбылося малое пасьвячэньне Царквы, і ў гэты-ж дзень была адслужаная першая Божая Служба з удзелам Мітрапаліта Гэрманоса.

20 красавіка 1975 г. адбылося ўрачыстае пасьвячэньне панікадзілаў і падсьвечнікаў.

На будову Царквы грашыма было ўнесена Беларусамі, беларускімі прыходамі й арганізацыямі 72.678,24 даляраў. Усіх ахвярадаўцаў да гэтага часу 246.

Людзьмі ў колькасьці 21 асобы падаравана царкоўных прыладаў на суму 4.217,00 даляраў.

Пры будове працавала 40 чалавек, якія ахвярна улажылі 2,469 дзён працы, якая ў пераліку на грошы становіць 102.489 даляраў.

Царква, хоць параўнальна й не вялікая, мае 20 вакон і 32 дзьвярэй.

Вартасьць будынку зь інвэнтаром паводля апошняе справаздачы — 204.284,44 даляраў.

**Кастусь Мерляк**

## ПАЛЕМІКА АБ БЕЛАРУСАХ У ЗША

Кангрэс Расейскіх Амэрыканцаў у лісьце да рэдакцыі газэты „Этнік Амэрыкан Ньюз", якая друкуецца ў горадзе Пітсбургу, штат Пэнсыльванія, заяўляе, што, артыкул др. В. Кіпеля аб пачатках беларускае эміграцыі ў ЗША, зьмешчаны ў тэй-жа газэце №10 за 1975 г. — русафобскі й абразьлівы да Расейцаў. Гэтая расейска-амэрыканская арганізацыя заяўляе, што артыкул В. Кіпеля эклектычны ды імкнецца „ўставіць мазгі" чытачу ў кірунку дыскрымінацыі Расейцаў. Ніякіх фактычных довадаў, канкрэтных спасылак або цытатаў з артыкулу на падмацаваньне гэтых заяваў не падаецца. Нарэшце, Кангрэс Расейскіх Амэрыканцаў заяўляе, што старыя крыўды між Славянамі няма чаго ўспамінаць, бо гэта і не адпавядае мэтам газэты, і ня спрыяе паразуменьню.

Артыкул др. В. Кіпеля аб пачатках беларускай эміграцыі ў ЗША аналізуе беларускую гістарычную спадчыну, удакладняе наш гістарычны назоў, тлумачыць, як глядзелі на Беларусаў, калі яны прыяжджалі у Амэрыку, ды аналізуе палітычна-эканамічны стан Беларусі ў часе, калі пачалася была масавая эміграцыя. Артыкул падкрэсьлівае, што асноўнай прычынай выезду Беларусаў была каляніяльная палітыка Расеі на беларускай тэрыторыі. У артыкуле таксама цытуюцца англамоўныя дакумэнты, якія пацьвярджаюць каляніяльны стан Беларусі ў пару масавае эміграцыі ў Амэрыку.

Што-ж да „несправядлівасьцяў", якія Кангрэс Расейскіх Амэрыканцаў уважае былі ў мінулым, дык на наш пагляд, яны ў дачыненьні да Беларусі ня зьніклі й цяпер — Беларусь русыфікуецца й выпустошваецца ў меры, дасюль яшчэ ня бывалай.

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

